 


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 4 (1550) ГОД XXXI БЕЛАСТОК, 26 СТУДЗЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.




Мядзвежыкі — вёска з выгляду вельмі акуратная.

## З рэпарцёрскіх запісак

## ДАРОГА ДА СОНЦА

Вёску Мядзвежыкі можна знайсці толькі на вельмі дакладных картах Беластоцкага ваяводства. Схавалася яна за лесам, далёка ад праязных дарог у Мілейчыцкай гміне. Але я пра гэтую вёску чуў ад дзяцінства, значыць, амаль ад паўстагоддзя, бо тут па-суседску і Мікулічы, і Рагачы, і Вулька Нурэцкая, і Зубачы, значыць, мае родныя старонкі.

На гэты раз у Мядзвежыкі завялі мяне „ваенныя сцежкі“, на якіх шукаў я слядоў партызанскай дзейнасці Грышкі Каравая з вёскі Ставішчы, што ў шасці кіламетрах за Мядзвежыкамі.

*

Восем гадоў таму назад солтысам у Мядзвежыках выбралі Міхася Карпілюка — гаспадара аднаго з лепшых у вёсцы і чалавека, які не любіць хавацца ў шкарлупіне сваіх прыватных спраў.

Вёска, калі паглядзець на яе звонку, здаецца і даволі заможная, і дбайна адбудаваная, нават з віламі і з часткова брукаванай вуліцай, з прыпынкам ПКСу. Але солтыс кажа, што ў яго ўжо 39 рэнтыстаў, а толькі 27 дзейсных гаспадароў.

І таму так ён стараецца, каб і ў Мядзвежыках жылося выгадней. Дапамагаюць яму, вядома, іншыя жыхары гэтай вёскі, у першую чаргу Анатоль Шатыловіч, Антон Раманюк і Фёдар Данілевіч.

*

Калі выбралі яго солтысам, быў год 1977. У маі цэлая краіна рыхтавалася да агульнапар-

(Працяг на стар. 5)

## ЦАНА НА ЗЯМЛЮ

У нашых старонках зямлі ніхто не цэніць і не шануе. Нават бясплатна не хочуць яе браць сяляне, і таму пастаянна накапляецца дзяржаўны фонд зямлі. Ужо цяпер вядома, што праз некалькі гадоў дзяржава стане ўласніцай звыш 30 тысяч гектараў зямлі, раскінутай па вёсках Беластоцкага ваяводства.

Незалежна, аднак, ад усяго гэтага, варта ведаць, што зямля мае сваю цану. Ваяводская рада нарадовая спецыяльнай пастановай ад 19 снежня 1985 года рашыла, што на тэрыторыі вёсак адзін **квадратны метр** дзяржаўнай зямлі не забудаванай і пад будынкамі цэніцца ад 25 зл да 100 зл. Гэтакі разнабой у цане аднаго квадратнага метра зямлі выкліканы, вядома, яе якасцю і розным прызначэннем. То ж зразумела, што кусок агарода нельга раўняць з такім жа самым кускОм пяску, зрэдку парослага ядлоўцамі. Будаўнічая дзялянка будзе цаніцца вышэй ад чыстага поля, а чыстае поле — не раўня лесу з паднебнымі соснамі і елкамі.

А ўсё ж-такі гэты цэнавы разнабой, як мне падказвае жыццёвы вопыт, замнога свабоды астаўляе адміністрацыі. Якасць і вартасць кожнага куска зямлі вызначаюць людзі з геадэзійнай і сельскагаспадарчай службаў. А людзі, як людзі, бываюць розныя і, калі маюць да выбару цану ад 25 да 100 зл. за метр, дык... Нездарма заканілася ў народзе прымаўка: хто шмаруе, той і едзе. То ж гектар поля — гэта дзесяць тысяч квадратных метраў. Значыць, за гектар гэтага поля можна заплаціць і 1 мільён злотых, але можна і ў чатыры разы менш. Значыць, гульня ў спакушэнне адказнага за выцэнку працаўніка для абодвух зацікаўленых вельмі ж аплоціцца.

Крыху інакш гэтая пастанова ВРН устанаўлівае цану на дзяржаўную зямлю ў гарадах. Найвышэйшая яна, зразумела, у Беластоку. Сталіца ваяводства падзелена на тры зоны. У першай зоне, значыць у самым цэнтры горада, квадратны метр дзяржаўнай зямлі (аднолькава, прыгадаем, што пад будынкамі, што незабудаванай) каштуе аж 525 зл. Калі прыняць, што пад прыватны асабняк трэба ў сярэднім нейкіх 300 квадратных метраў плошчы (дзялянка, скажам, 15x20 метраў), дык прыдзецца заплаціць за гэтакую дзялянку

(Працяг на стар. 4)




## „НІВА“ — ЯКАЯ ПАВІННА БЫЦЬ?

Калі я толькі пазнаёміўся з „Нівою“, а пазнаёміўся я з ёю амаль ад першага нумара, змест не быў для мяне заўсёды добры — і тады і цяпер. Лічу, што над тым, каб „Ніва“ падабалася чытачам, сушаць галовы рэдкалегія, галоўны рэдактар, журналісты. Калі ж гэтыя людзі будуць прыслухоўвацца да жадання кожнага паасобнага чытача, то з гэтага нічога добрага не выйдзе. Той хоча куток для маладых, той хоча песні з нотамі, той хоча соннік, той хоча, каб у „Ніве“ змяшчалі навуковыя тэксты, іншы хоча гульні ў шахматы. Кожны чытач ці карэспандэнт чагось хоча. Можа, гэта было б і добра, але трэба, каб на гэта „Ніва“ мела не шэсць лістоў, але хоць з шаснаццаць. Бо каб на цяперашніх шасці лістах „Нівы“ змясціць усё тое, што некаторыя хочуць, трэба было б моцна абмежаваць такіх журналістаў, як Гайдук ці Рудчык, а нават і Баршчэўскі. А гэта, не веру, што камунебудзь спадабалася б.

У 44 нумары ад 3 лістапада Р. Бутайла чытае ўсім карэспандэнтам „Нівы“ доўгую лекцыю, з якой відаць, што Бутайле ў „Ніве“ мала што і падабаецца. Не падабаецца яму пісанне аб ваенных падзеях, аб партызанах, аб мінулых часах.

Я чытаю многа савецкай прэсы. У іх надта многа пішацца аб ваенных падзеях і пішацца да слёз. І відаць, што гэтая тэма не хутка сыдзе са старонак савецкай прэсы. Народ, які перажыў трагедыю апошняй вайны, не можа яе хутка забыць.

Па тэорыі Бутайлы пісанне ўспамінаў гэта „адзнака старэння аўтара“. З свайго боку лічу, што гэта рыса вельмі станоўчая, бо каб не было гэтага пісання, што б мог знаць малады чытач пра мінулае? Сёння малады, пераехаўшы ў горад з прыгожай вясковай хаты, ідзе ў жыллёвую спулдзельню з цвёрдым жаданнем і патрабаваннем новай прыгожай кватэры з усімі выгодамі.

Можа ён крыху памякчэе, калі будзе ведаць, што яго дзед, вярнуўшыся з бежанцаў, на плячах нанасіў дрэва з лесу на цёплую зямлянку. А праз нейкі час, працуючы і ашчаджаючы, пабудаваў добрую хату.

Малады чалавек, які наракае на недахоп добрых дэзадарантаў, шампуняў, парашкоў, павінен ведаць, што яго бабка для мыцця бялізны ці асабістага

(Працяг на стар. 4)

 

# БЕЛАРУСКІ ЛІЦЭЙ У БЕЛЬСКУ—ЯГО ПЕДАГОГІ І ВУЧНІ

Кожны год вучні VIII і нават VII класаў ужо ад пачатку школьнага года, а асабліва ад паўгоддзя, задаюць сабе пытанне: што далей? Куды выбрацца на далейшую вучобу. Якую выбраць сярэднюю школу?

Беларускі ліцэй у Бельску ўжо вельмі многія гады заўчасна стараецца на гэткія пытанні даваць і вучням, і бацькам добры і карысны адказ.

Рашэннем педагагічнай рады ліцэя ў школы па вёсках Беласточчыны ўжо ад снежня пачынаюць выязджаць педагогі ліцэя. Сустракаюцца з вучнямі, сустракаюцца з настаўнікамі ды і бацькамі, праводзяць з імі размовы, расказваюць пра беларускі ліцэй і асабліва ўсім сур'ёзным, працавітым і здольным вучням восьмых класаў сардэчна раяць выбраць гэтую сярэднюю школу для далейшай вучобы. Кожнаму з тых, хто выбярэ беларускі ліцэй, за чатыры гады вучобы школа дасць абсалютна пэўную магчымасць паступіць у выбраную вышэйшую школу.

Як паказвае шматгадовы вопыт, такія сустрэчы прыносяць добры плён, аб чым сведчаць вынікі навучання ў ліцэі і колькасць паступаючых у вышэйшыя школы краіны і Савецкага Саюза сялянскіх дзяцей Беласточчыны.

Калі толькі здараецца магчымасць гаварыць з бацькамі, педагогі беларускага ліцэя гавораць з імі. І сустракаюцца часам з такой дзіўнай няўпэўненасцю: а ці мой сын дасць рады паступіць у вышэйшую школу?

Беларускі ліцэй у Бельску смела ўсім адказвае: дасць рады, бо мы яго навучым і падрыхтуем да гэтага! Ды і прыклады вось вам у адказ на такое пытанне.

За апошнія 15 гадоў Бельскі беларускі ліцэй заўсёды знаходзіцца ў ліку некалькіх найлепшых ліцэяў усяго ваяводства, а нават і краіны па паступленню яго вучняў у вышэйшыя школы. А шматлікія алімпійцы ліцэя праславіліся сваімі высокімі ведамі, атрымліваючы права паступаць у вузы без экзаменаў.

За апошнія ж гады выпускнікі матэматычна-фізічных класаў ліцэя паступілі ў вуз — два разы цэлымі класамі і два разы без адной асобы. Гэта найлепшы адказ усім васьмікласнікам, якія думаюць ужо аб тым, куды пайсці вучыцца.

Педагагічная рада Беларускага ліцэя ў Бельску ўжо шмат гадоў праводзіць аналіз лёсу сваіх выпускнікоў. Вынікі аналізу кожны год вывешваюцца ў школьнай вітрыне. Інфармацыі такія вельмі цікавыя і для вучняў, і для настаўнікаў, і для бацькоў.

Як прадстаўляюцца лёсы выпускнікоў 1985 года?

Матуру здало 94 асобы. Да экзаменаў у вышэйшыя школы прыступіла 81 асоба. Студэнтамі стала 61 асоба. Самыя выдатныя вынікі здабыў клас IVа, матэматычна-фізічны, дзе на 24 выпускнікоў у вузы паступіла 23.

А вось як прадстаўляецца гэта адносна напрамкаў навучання. У політэхнічныя інстытуты паступіла 11 асоб, у медыцынскія акадэміі — 6 асоб, на юрыдычныя факультэты — 5, у сельскагаспадарчыя акадэміі — 4 асобы, на эканамічныя факультэты — 4, на беларускую філалогію — 4, на біялагічны факультэт — 3, у вайсковыя афіцэрскія школы — 2, СГПіС — 2, педагогіку — 2, на польскую філалогію — 2, на рускую філалогію — 2, бібліятэкарства — 2, пачатковае навучанне — 2 і на 10 далейшых спецыяльнасцей — па адной асобе.

Паводле гарадоў. Найбольш пайшло вучыцца ў Варшаву — 21 асоба, у Беласток — 17, у Люблін — 7.

11 асоб паступіла на вучобу ў СССР — у цудоўны Ленінград — 7 асоб (політэхнічны інстытут — 3, медыцынскі інстытут — 3, педагогіка спецыяльная — 1), у Маскву — 3 (політэхнічны інстытут — 2, эканоміка замежнага гандлю — 1), у Сімферопаль — 1 (медыцынскі інстытут).

Як прадстаўляецца ў гэтым удзел сялянскіх дзяцей, якія канчаюць беларускі ліцэй, у паступленні ў вузы? Вось прыклад самы новы.

З выпуску 1985 года. На 28 сялянскіх дзяцей-выпускнікоў паступіла 25 асоб, на 36 выпускнікоў рабочага паходжання — паступіла 20, а на 17 — інтэлігенцкага — паступіла 14.

Як тлумачыць гэты аванс сялянскіх дзяцей? Імкненнем іх да вучобы? Здаецца, хоць гэта выглядае на парадокс, але слабейшай падрыхтоўкай моладзі ў вясковых школах. Ды якраз у гэтай слабасці як бы скрываецца сіла, бо гэтыя маладыя людзі ідуць наперад смела і адважна, выкарыстоўваюць усе свае запасы, усю працавітасць і, калі ёсць шанц, даганяюць і пераганяюць сваіх равеснікаў з лепшых школ. Ужо ў першых класах ліцэя заўважаецца вялікая інтэнсіўнасць і сістэматычнасць у вучобе сялянскіх дзяцей. А гэтакай працы ўсімі сіламі спрыяе ўвесь мудры, вопытны і клапатлівы настаўніцкі калектыў Бельскага беларускага ліцэя.

Вось і таямніца поспехаў.

**Вера Леўчук**

# СТАРАЖЫТНЫ ЧАС БЕЛАРУСКІ

У нашых дыскусіях па беларускай тэматыцы вылазіць наверх „шылам з мяшка" наша нізкай пробы арыентацыя ў айчыннай гісторыі. Аляксандра Бергман даслала мне нядаўна новую кніжку Генадзя Каханоўскага „Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI-XIX ст. ст." Аўтар яе гэта выдатны савецкі навуковец і дзеяч беларускай культуры. Чытаючы яго даследаванні, я нязменна адчуваю нейкую ірытацыю тым, што мы, фактычна, больш ведаем пра мінулае нават экзатычных нам краін, чымсьці пра сваю зямлю. І як тут сур'ёзна гаварыць пра нацыянальную свядомасць нашу ды годнасць?! На якіх падставах?

Але вярнуся да гэтай кніжкі Каханоўскага, напісанай глыбока і адначасова займальна, быццам гістарычны раман. Для прыкладу, трэба ведаць, што назва „беларусы" канчаткова ўсталявалася ў другой палове XIX — пачатку XX ст. „У ранейшыя часы, — піша ён, — жыхары Беларусі называлі сябе „рускімі", „палякамі", „ліцьвінамі", „тутэйшымі", „палешукамі", „пінчукамі" і г.д. Асабліва ўплывала на самавызначэнне мясцовых жыхароў іх веравызнанне".

Да Кастрычніцкай рэвалюцыі гістарычнае развіццё Беларусі не было самастойным прадметам даследавання. Ні дваранскія, ні буржуазныя гісторыкі не прызнавалі самога факта існавання беларускага народа. Першая граматыка новай беларускай мовы была напісана, праўдападобна, яшчэ ў канцы васемнаццатага стагоддзя магілёўскім уніяцкім мітрапалітам Богушам-Сестранцэвічам, вядомым у той час інтэлектуалам і членам шматлікіх акадэміяў навук. На жаль, як і паслейшыя такія граматыкі, улады забаранілі публікаваць (царызм страшэнна баяўся беларускага адраджэння!).

Шмат даведваемся пра Беларусь з архіваў даўняй расійскай разведкі, з рапартаў тайнай агентуры, якая дзейнічала на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага. Вядомы капітальны дакумент пад назваю „Чарцёж", складзены Максімам Цызыравым, які дзейнічаў па загаду Пятра Першага ў 1701 годзе. Дзякуючы гэтаму таленавітаму шпіёну мы ведаем сёння пра шмат-якія замкі і абарончыя аб'екты, уключна з вопісамі іх. Каханоўскі звяртае ўвагу вучонага свету на радзівілаўскі Нясвіж, які — выяўляецца — быў адным з найважных сховаў дзяржаўных дакументаў Вялікага княства Літоўскага. Нясвіжскія архівы і бібліятэкі няраз рабаваліся, мноства вывезена з іх шведамі, а таксама і ў Расію. Самі ж Радзівілы не вельмі каб атаясамлівалі сябе з Польшчаю, гэтак жа, як і слынныя літаратары Нямцэвіч, Багамолец, Нарушэвіч, пра якіх паляк Ліманоўскі пісаў: ліцьвіны рускага паходжання. Хоць твор-

(Працяг на стар 6)

**ЛЮДЗІ БГКТ**

# ТУЖУ ПА РОДНАЙ ВЁСЦЫ

Хто як хто, але Аня Іванюк з Гданьска на ўсіх пасяджэннях, нарадах, з'ездах БГКТ мае што сказаць. І будуць гэта справы канкрэтныя, цікавыя і павучальныя. Так было на X з'ездзе БГКТ, на якім дэлегаты з вялікай увагай выслухалі яе прамову. Адчувалася вялікая адданасць справам нашай арганізацыі і адказнасць за яе лёсы. На апошнім, IV пленуме ГП Аніна слова ў дыскусіі было вельмі канструктыўнае. З нейкай асаблівай прыемнасцю быў успрыняты прысутнымі факт, што ў гуртку БГКТ у далёкім Гданьску ёсць харавы калектыў і моладзь мае магчымасць вывучаць беларускую мову.

У гутарцы са мною Анна Іванюк сказала шмат цёплых слоў у адрас такіх актывістаў, як Аляксандр Юзафовіч, Міхась Куптэль, Ірэна і Анна Гадончыкі, Аня Скварко, Зіна Красоўская і інш. З прыемнасцю ўспамінала яна таксама нядаўні канцэрт свайго хору ў Доме савецкай культуры ў Гданьску.

— Спявалі мы ў асноўным беларускія песні, а публіка прымала нас з вялікай цеплынёй і сардэчнасцю.



Аня таксама спявае ў хоры і з'яўляецца яго душою. Яна гаворыць, што гданьскія спевакі з радасцю прыязджаюць у Беласток на агляды беларускай песні, што арганізоўвае кожны год ГП БГКТ.

Беларуская арганізацыя ў Гданьску існуе ўжо 18 год. Яе сядзіба месціцца на адной з найбольш вядомых вуліц горада — на Длугім Таргу, па-суседску са статуяй Нептуна, і гэты клуб з'яўляецца такім маленькім Домам беларускай культуры, домам сустрэч беларусаў у Гданьску.

Аня Іванюк была адным з ініцыятараў і арганізатараў гуртка БГКТ у Гданьску. Яна была ў яго арганізацыйным камітэце, пасля на працягу 15 год выконвала функцыю сакратара, а ўжо тры гады з'яўляецца старшынёй гуртка. Дэлегаты X з'езда БГКТ выбралі яе членам Галоўнага праўлення.

Як вядома, новы статут, прыняты X з'ездам БГКТ, дае магчымасць вярнуцца да ранейшай арганізацыйнай структуры, дае магчымасць арганізаваць аддзелы БГКТ. І Анна Іванюк лічыць, што вельмі важнай справай для гданьскіх беларусаў было б стварыць аддзел БГКТ у Гданьску. Думаецца, што ў будучыні варта было б гданьчанам далучыць да іх аддзела гурток БГКТ у Кашаліне.

Калі Анна Іванюк бывае ў Беластоку, заўсёды выкройвае час, каб паехаць у сваю родную вёску Махнатае, што на Гайнаўшчыне (у якой яна нара-

(Працяг на стар. 6)

(Прапяг са стар. 1)




мыцця рабіла з драўлянага попелу луг і мела валасы да паясніцы. А гэта ж так нядаўна было! Можна прыводзіць многа прыкладаў, яны ёсць у літаратуры і на старонках „Нівы“ і ад гэтага „Ніва“ не траціць сваёй вартасці.

**Дзед Кастусь**

### КАЛІ ЗАМНОГА, ДЫК НЯЗДОРАВА

З зацікаўленнем прачытаў я артыкул Аляксандра Анташэвіча „Шэпты па кутках“ („Ніва“ ад 24 лістапада 1985 г.). Загалова́к вельмі трапны. Алесь Барскі намаўляе да беларускай мовы чытачоў „Нівы“. Хіба ж мы, чытачы „Нівы“, не шануем яе? А што з тымі, што не чытаюць „Ніву“? Анташэвіч раіць Барскаму пісаць у „Кур’ер Падляшскі“. Дык „Кур’ер“ таксама не ўсе чытаюць. Барскі нас, чытачоў „Нівы“, як тых асталопаў, усведамляе, што такое дзяржава, рэлігія, нацыя, і што мы, беларусы, раўнапраўныя. Дык чаму Барскі гэтага не робіць праз тэлевізію? Вельмі добра ён напісаў, што павінны ксяндзы гаварыць казанні па-беларуску. Але пісаць пра гэта ў „Ніве“? Не па адрасу Барскі пісаў і ведаў, што ксяндзы „Ніву“ не чытаюць. Анташэвіч дарэмна баіцца за Барскага. Барскі ведае, дзе што гаварыць.

Колькі год можна гаварыць: „Наша мова, наша мова“! Чаму не пісалі пра яе, як вучыліся польскай мове? Аўрора кажа: „Маўчыце!“ Мы не маўчым. Чытаем „Ніву“ дзесяткі год. А чаму ж Аўрора дасюль маўчала? Каб яна плыла і па сухапуцці, і каб гудзела на ўсё дула, нічога не змяніла б. Гэта зрабіў час, што мы такія, а не іншыя. Адносна сваёй мовы да вайны ў нас было лепш. Тады ўсе беларусы былі разам. У нас, апрача паліцэйскага і настаўніка, усе былі свае. Нават дзеці настаўніка з нашымі гаварылі па-нашаму. Ніхто ў Польшчу тады ад нас не выехаў. А сёння нашы вучоныя выехалі ў польскія гарады, гавораць там па-польску, і адтуль крычаць нам: „Трымайцеся беларускай мовы!“

У нас сёння мешанае насельніцтва. І ўсё больш мяшаецца. Жэняцца адны з другімі. Сваякі Барскага (яны і мае сваякі) таксама. У Бандарах і Рыбаках няма хаты Баршчэўскіх, каб не парадніліся з палякамі. Тыя, што жывуць у вёсцы, гавораць па-свойму, а ў горадзе — па-польску. Гэта ўжо іх справа. Барскі хоча іх штрафаваць. А мо, аднак, зробіць выключэнні? Адносна запісаў, дык, па-мойму, важна тое, як у каго запісана ў душы. Тамаш Кірылаў лепш гаворыць па-французску, чым па-беларуску, але душою ён беларус.

Нехта пісаў, што сёння „Ніва“ прыгажэйшая. „Ніва“ заўсёды прыгожая, але каб прыгажэла, я б не сказаў. Калісь было многа вершаў ад родных ніў і палоска Дзядзькі Кваса. Сёння — „Мяжа“. Калісь „На мяжы“ было

(Працяг на стар. 5)



Родны пейзаж. Фота Юркі Трачука.

# ЦАНА НА ЗЯМЛЮ

(Працяг са стар. 1)

ў цэнтры горада аж 157 тысяч 500 зл. — з дадаткам за тэхнічнае ўзбраенне, аб чым крыху далей.

У другой зоне горада Беластока метр зямлі каштуе ўжо 370 зл., у трэцяй зоне — 260 зл. У паласе за межамі ўсіх трох зон, значыць, на самых гарадскіх ускраінах, метр плошчы каштуе — 220 зл.

Бельск, Гайнаўка, Лапы, Монькі, Сямяцічы і Саколка падзелены на дзве зоны. У Бельску і Гайнаўцы за адзін квадратны метр зямлі ў першай зоне прыдзецца плаціць па 350 зл., а ў другой зоне — на сто злотых менш. У Лапах, Моньках, Сямяцічах і Саколцы — аднолькава і адпаведна па 300 зл. у I зоне і па 200 зл. у II зоне.

У гэтых гарадах цэны на зямлю залежаць толькі ад зоны, у якой яна знаходзіцца, а не ад волі людзей. Затое ва ўсіх іншых гарадах Беластоцкага ваяводства цана зямлі залежыць ад якасці і яе прызначэння, з тым, што ў Супраслі яна вагаецца ад 200 да 300 зл., у Харошчы, Чорнай Беластоцкай, Васількове і Заблудаве — аднолькава ўсюды, значыць, па 150-200 зл. за адзін квадратны метр, а ў Бранску, Драгічыне, Княшыне і Суражы — па 120-200 зл. за м², значыць, найтанней. І гэта мяне крыху здзіўляе, бо якраз гэтыя гміны ў Беластоцкім ваяводстве лічацца высокапрадукцыйнымі раёнамі Беласточчыны, дзе зямля ў асаблівай пашане і на кожны яе свабодны кусок адразу знаходзіцца па некалькі пакупнікоў.

У паясненнях да гэтай пастановы ВРН, між іншым, сказана, што яе праект апрацаваў спецыяльны калектыў знатакоў справы, вызначаны ваяводам, а ў яго саставе знайшліся прадстаўнікі мясцовых органаў дзяржаўнай адміністрацыі, жыллёвых кааператываў, Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння, а таксама фірмаў і прадпрыемстваў па падрыхтоўцы і ажыццяўленню будаўніцтва ў гарадах і ў вёсках. Значыць, былі асновы, каб справядліва ацаніць вартасць зямлі ў паасобных раёнах Беластоцкага ваяводства.

Трэба яшчэ ведаць, што да асноўнай цаны на зямлю далічваецца немалы дадатак, калі на дзялянцы, якую вы захочаце купіць, знаходзяцца: дарогі, электралінія, водаправод, каналізацыя, газаправод, цэнтральнае ацяпленне, або яшчэ іншае камунальнае абсталяванне. Падрабязную выцэнку гэтых дадатковых аплат зацікаўленыя могуць знайсці ва ўпраўленнях дзяржаўнай адміністрацыі. Для прыкладу, аднак, варта ведаць, што адзін квадратны метр цвёрдай дарогі каштуе аж 700 зл., а метр каналізацыі давялося б купіць за 300 зл., метр электрасеці каштуе 50 зл. Так ёсць у цэнніку, хаця трудна мне зразумець, як электрасець мераць у квадратных метрах. Здаецца, што адміністрацыя будзе далічваць па 50 зл да асноўнай цаны кожнага квадратнага метра, калі ў гэтым месцы будзе магчымасць падключыцца да электрасеці. А гэта — пры дзялянцы ў 300 м² — павышае яе кошт ужо на 15.000 зл.

А, можа, усё-ж лепш астацца на бацькоўскай зямлі, за якую не трэба плаціць ані залатоўкі, апрача, зразумела, дзяржаўных падаткаў.

**В.Р.**

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА „СЛОВА“

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Чытач напэўна заўважыў, што вандруючы „Шляхам гадоў“ па нашай мінуўшчыне, мы апынуліся ў часах славутага „Слова о плъку Игореве, Игоря Святъславля, внука Ольгова“ або па-цяперашняму — „Слова пра паход Ігаравы, Ігара, сына Святаслава, унука Алегава“, якое належыць да самых выдатных твораў мастацкай літаратуры сярэдневяковай Еўропы. У ім расказваецца пра паход супраць полаўцаў у 1185 г. князёў Ігара і Усевалада Святаславічаў.

Ігар панаваў у невялічкім Ноўгарад-Северскім княстве, якое знаходзілася над сярэднім цячэннем ракі Дзясны (левага прытоку Дняпра) і займала паўднёва-ўсходнія землі беларускага племя радзімічаў і паўночна-заходнія ўскраіны ўкраінскага племя севяран. Ягоны брат Усевалад княжыў у маленькіх Трубчэўскім і Курскім княствах, якія ахоплівалі сумежжа беларускіх радзімічаў, рускіх вяцічаў і ўкраінскіх севярак, над верхнім цячэннем рэк Дзясны і Сема (сённяшняя рака Сейм — левы прыток ракі Дзясны). Абодва княствы з усходу суседнічалі з полаўцамі — шматлікімі качэўнымі плямёнамі, якія насялялі прычарнаморскія і прыкаспійскія стэпы.

Полаўцы былі вельмі ваяўнічым і неспакойным суседам, яны часта нападалі на сумежныя з імі рускія землі, бралі ў няволю насельніцтва, рабавалі маёмасць, палілі гарады і сёлы. Найбольшым пагромшчыкам полаўцаў быў вялікі князь кіеўскі Уладзімір Манамах (1053-1125), які ў гадах 1103-1106 чатырма ўдалымі паходамі разбіў палавецкія орды, адагнаў іх за Дон, Волгу і Кубань, а значную колькасць падпарадкаваў сваёй уладзе. Потым рускія князі ядналіся з полаўцамі ў ваенныя саюзы, запрашалі палавецкія дружыны сабе ў дапамогу падчас міжусобных войнаў і выдзірання адзін другому лепшых княстваў, зямель, гарадоў. Часцей за ўсіх полаўцамі карысталіся князі кіеўскія, валынскія і галіцкія ў сваіх паходах на Полаччыну, Літву, Яцвягію, Польшчу.

У канцы XII ст. полаўцы ўжо не былі такой пагрозлівай сілай. У 1183 г. дзевяць рускіх князёў з дружынамі рушылі ў стэп і разграмілі вялікае вайсковае аб’яднанне полаўцаў, узялі ў палон больш за дзесяць іхных ханаў, мноства нявольнікаў і ўсялякага дабра ды пачалі адразу рыхтавацца і запрашаць іншых князёў да паходу ў 1185 г. Ігар і Усевалад мелі нейкія важныя прычыны не далучацца да гэтай грамады і вясною 1185 г. яны самі рушылі ў палавецкія стэпы: „Храбрымося самі! Самі пярэднюю славу захопім і з заднюю самі падзелімся“, — перадалі яны князю кіеўскаму Святаславу, як чытаем у тым жа „Слове“ (усе цытаты з гэтага твора падаюцца з перакладу яго Янкам Купалам).

У „Слове“ якраз і расказваецца пра гэты няўдалы паход. Падчас першай сутычкі рускія, „патаптаўшы паганае войска палавецкае і рассыпаўшыся стрэламі па полі, паімчалі прыгожых дзяўчат палавецкіх, а з імі золата і папоны, і аксаміты дарагія; плашчамі і кажухамі ды ўсялякімі палавецкімі ткані-

# ДАРОГА ДА СОНЦА

(Працяг са стар. 1)

тыйнага пачыну. Фёдар Данілевіч, тадышні гмінны радны, выбраўся да начальніка, Мікалая Бартнічука, з рашучай прапановай, што мядзвежанская партыйная арганізацыя разам з беспартыйнымі жыхарамі вёскі адробяць гэты партыйны пачын у сябе ў Мядзвежыках, каб толькі гміна дапамагла ім грамадскім транспартам перавезці пясок і каменне.

— У нас здаўна, гадоў 15-20, — паясняе солтыс Карнілюк, — ляжала пад платамі накопленае каменне, з прызначэннем на брук. Яно ўжо мохам парасло і дзеці па вуліцы парасцягвалі...

— Нават няшчасныя выпадкі ад гэтага здараліся, — уключылася яго жонка.

— І мы рашылі загаспадарыць адпаведна гэтае каменне, адным словам, пралажыць брук у вёсцы.

— Хапіла толькі да палавіны вёскі, — зноў жонка перабіла мужа.

— І на гэтую працу якраз мы прысвяцілі свой партыйны пачын, — прадаўжаў солтыс. — І не было такой хаты, з якой хтосьці не прыступіў бы да гэтай супольнай грамадскай работы. Нават і па двух, і па трох рабілі...

— І дзеці шмат чаго дапамагалі, — зноў дапоўніла яго жонка.

І астаўся ў вёсцы гэты паралачны кусок брукаванай дарогі да сонца...

*

Пасля прыдумалі, каб пабудаваць святліцу.

— Бо ўжо не было дзе і падзецца, — талкуе солтысава жонка. — Ці вяселле, ці хрысціны, ці фэст вясковы нейкі і моладзь прыдумала наладзіць гульні, ці нават звычайны сход вясковы, каб абмежаваць свае сялянскія справы, проста хаця ты лопні, а тут няма дзе сабрацца і годзе!

Мелі яны супольны лес, які прыналежаў цэлай вёсцы. Хто адважнейшы, дык ехаў у гэты лес, рубаў яго і валок дамоў. Было ясна, што з гэтай суполкі неўзабаве нічога не астанецца. І рашылі ў Мядзвежыках, што супольнымі сіламі зрэжуць частку гэтага супольнага лесу, сосны прададуць надлясніцтву, а за вырučаныя грошы купяць хату на святліцу.

Як рашылі, так і зрабілі. Быў гэта другі іх дружны грамадскі, добра абдуманы пачын. Вясковае конта папоўнілася ў ПКО на 64 тысячы злотых. Быў гэта яшчэ 1978 год. Тады з такімі грашыма можна было штосьці пачынаць. У суседняй вёсцы, у Рагачах, знайшлася хата для пакупкі. Выторгавалі яе за 60 тысяч злотых. Хацелі ўжо разбіраць і перавозіць у свае Мядзвежыкі і тады, калі болей дакладна прыгледзеліся, аказалася, што гэтая хата на святліцу ім не вельмі прыгодная.

— Дык мы яе зноў у расход! — заяўляе солтыс Карнілюк. — Яшчэ і зарабілі 20 тысяч злотых. А самі мы рашылі, што зноў будзем рэзаць супольны лес і з новага матэрыялу будаваць ад фундаментаў сабе новы будынак на святліцу.

І пабудавалі. Калі ласка, цяпер па-суседску з вясковай крамай красуецца на высокім фундаменце гэты будынак-святліца. 12 метраў даўжыні і 8 метраў шырыні.

— Усё тут зроблена рукамі жыхароў нашай вёскі, — заяўляе солтыс. — Наймалі мы толькі аднаго майстра, якому таксама заплацілі з уласных грошай 50 тысяч злотых за пабудову гэтай святліцы.

— А колькі клопатаў і бяды было ў час гэтай пабудовы! Адзін Бог толькі ведае! — дабаўляе солтысава жонка. — Здарылася так, што не было ўжо чым яе пакрыць, грошай не хапіла і на сталярку, і на вокны. А тут ужо і гэты крызіс, і „Салідарнасць“ пачала бушаваць. Але мы не паддаліся. Дружна дамовіліся, што скінемся па тысячы злотых ад кожнага гаспадара. Начальнік дапамог нам раздабыць этэрніт і вокны...

*

Калі мелі ўжо за сабою вясковую вуліцу і вясковую святліцу, дык узяліся за дарогу, якая іх вёску цераз лес спалучае са станцыяй Чаромха. Гэта мела быць сапраўдная дарога да сонца, да шырокага свету. І пра яе пабудову можна было б саставіць цэлую эпапею. Перш за ўсё начальнік гміны меў сваю ўласную, зусім іншую канцэпцыю спалучэння тутэйшых вёсак са станцыяй у Чаромсе.

— Нам дапамог ваенны камісар на Беластоцкае ваяводства, — апавядае солтыс Карнілюк. — Ён загадаў начальніку рабіць дарогу там, дзе хочуць гэтага людзі, а не там, дзе яна раней планавалася, значыць, у аб'езд цераз вёску Беражышча.

Мядзвежаўцы сваё зрабілі. Зноў гуртам, грамадскім пачынам, цераз лес, 2500 метраў, да самай граніцы з Чаромхаўскай гмінай. І тут дарога іх да сонца абарвалася.

— Начальнік Куклік да нас, на жаль, не ездзіць, — жартуе солтыс Карнілюк. — Яму з Чаромхі і без гэтай дарогі ўсюды блізка.

Асталося яшчэ 2300 метраў, каб Мядзвежыкі, Рагачы і Мікулічы ды іншыя тутэйшыя вёскі змаглі найкарацейшым шляхам, цераз лес, дабірацца на чыгуначную станцыю ў Чаромсе, значыць да шырокага свету, проста да сонца. Але гэта ўжо іншая гміна, а кожны начальнік мае свае ўласныя клопаты.

Мядзвежаўцы не паддаюцца, бамбяць сваімі заявамі, просьбамі і скаргамі ўсе магчымыя ўстановы і камітэты і тужліва ўздыхаюць, што звяліся ў нас ваенныя камісары.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара

(Працяг са стар. 4)




каханне, сёння — праміnanне. Замнога пра адно і тое самае. А калі замнога, дык і няздорава.

**Ф. Хлябіч**

## ЖОНКА ЗАГАДАЛА

Прачытаў я артыкул Віктара Рудчыка ў 52 нумары „Нівы“ (1985) „Як пракарміць сябе“. Калі я дачытаўся да таго месца, дзе гаворыцца, што Станіслаў Малахвей сабраў 70 цэнтнераў з гектара, жонка не дала мне дачытаць да канца. Сказала: „Але ж дурніцу напісалі! Ды папера ўсё вытрымае. Няма ў нас на Беласточчыне такой гаспадаркі, каб кожны гектар даў столькі збожжа! Чаму яны не напісалі, дзе той Малахвей жыве і на колькіх гектарах гаспадарыць?“ — абуралася жонка. Загадала мне напісаць аб гэтым у „Ніву“.

Ну, што ж, жонкі трэба слухацца. Сеў ды пішу. Ды прашу сябра Віктара, калі ласка, напішы, дзе жыве Малахвей, я хачу паехаць ды пабачыць яго гаспадарку і запытаць, як ён дабіўся такога ўраджаю.

**Э. Шчасновіч**

**Ад аўтара:** Аб выніках гаспадарання С. Малахвея пачуў я на пленуме ВК ПАРП у Беластоку. Збіраюся таксама пазнаёміцца з ім асабіста. Тады і напішу больш. **В. Рудчык**

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

стараліся паліваць граззю тых беларускіх дзеячоў, якія ім не падабаюцца.

Што не гавары, а апінія міністэрства ўнутраных спраў санацыйнай Польшчы можа знайсці пацвярджэнне ў апініі міністэрства ўнутраных спраў краіны, якая знаходзіцца ў некалькіх тысячах кіламетраў ад Беласточчыны. І смешна і страшна.

**Алесь Барскі**

намі ўзорнымі пачалі масты масціць па балотах і гразкіх месцах“. Аднак перамога рускіх аказалася зманлівай. На другі дзень хлынулі на іх полаўцы „ад Дона і ад мора, і ад усіх старон рускае войска абступілі“ і разгарэлася бітва не на жыццё, а на смерць. „Біліся дзень, біліся другі, трэцяга дня к палудню рухнулі сцягі Ігаравы... тут баль дакончылі храбрыя русічы: сватоў напаілі, а самі палеглі за Рускую зямлю“. Рускія дружыны былі разгромлены, а князі апынуліся ў палоне“.

Гэтае паражэнне „русічаў“ схіліла аўтара „Слова“ да роздумаў над трагічным лёсам Русі. Ён гнеўна асуджае міжусобныя войны паміж князямі, якія знішчалі краіну. Уздыхаючы па славутым мінулым, ён усклікае: „О! Стагнаці Рускай зямлі, успомніўшы быўшу часіну і быўшых князёў!“ З іх найболей услаўляе тых, хто мужна абараняў рубяжы Русі ад „паганых“ — няхрышчаных чужынцаў. З асаблівай пашанай ён ставіцца да князёў, якія панавалі ў самых вялікіх і магутных у яго часы Уладзіміра-Суздальскім, Галіцка-Валынскім і Полацкім княствах. З іх найбольш увагі прысвячае Полацкай зямлі — з усяго ідаць яму самай блізкай і самай дарагой.

З горыччу і абурэннем згадвае ён пра нашэсце ў 1067 г. з Паўднёвай Русі князёў: кіеўскага Ізяслава; чарнігаўскага Святаслава і пераяслаўльскага Усевалада на Полацкае княства і кровапралітную іх бітву з войскамі полацкага князя Усяслава на рацэ Нямізе (цяпер на тэрыторыі сённяшняга горада Мінска): „На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх“. З найбольшай пашанай і захапленнем аўтар „Слова“ расказвае аб дзяржаўнай мудрасці, незвычайных подзвігах і нястомнай барацьбе з ворагамі Полацкага княства ягонага легендарнага князя Усяслава. Ён дакарае Усяслававых нашчадкаў за братабойчыя войны, якімі яны давялі да заняпаду колішняй велічы Полацкай дзяржавы.

Затым паэт зноў вяртаецца да падзеяў 1185 г. Над трагічным лёсам Ігара галосіць у Ноўгарадзе-Северскім яго жонка Яраслаўна (Еўфрасіння, дачка галіцкага князя Яраслава Асмамысла). І, як быццам па яе жаданню, Ігару ўдалося ўцячы з палону, пазбегчы пагоні і шчасліва вярнуцца дамоў. Потым ён паломнічае ў Кіеў, у храм Багародзіцы Пірагошчай з падзячнай малітвай за выратаванне. „Слова“ заканчваецца шматзычнай здравіцай: „Здароўя князям і дружыне, выступаючым за хрысціян на войска паганых! Слава князям і дружыне!“

Паход Ігара і Усевалада Святаславічаў у 1185 г. быў усяго толькі эпізодам у працяглым змаганні ўсходніх славян супраць полаўцаў і не вырашаў лёсу ні адных, ні другіх. Таму каштоўнасць „Слова“ не ў апісанні гістарычнага факту, а ў яго мастацкіх вартасцях. Яно „палоніць нас сваёй ідэйнай глыбінёй і мастацкай дасканаласцю, незвычайнай самабытнасцю і змястоўнасцю, непаўторнасцю жанравай формы, пластычнасцю і музычнасцю паэтычнай мовы, — падкрэслівае вядомы знаўца старабеларускай літаратуры Вячаслаў Чамярыцкі. — Магутны талент паэта, апладнёны гарачай любоўю да Бацькаўшчыны, зрабіў яго вечным, узняў над часам да вялікіх мастацкіх абагульненняў, да стварэння помніка неўміручага, агульначалавечага ідэйна-мастацкага гучання і значэння“.

Адразу пасля выяўлення ў 1795 г. у Спаскім манастыры ў Яраслаўлі і апублікавання ў 1800 г. перакладу „Слова“ на рускую мову разгарэліся спрэчкі пра яго аўтара, месца і час напісання. Гэтыя тры праблемы засталіся нявырашанымі да сённяшняга дня, хоць пра іх выказваліся многія выдатнейшыя вучоныя. Выказваюцца меркаванні, што гэты твор напісаў галічанін з акружэння жонкі Ігара, дружыннік Ігараў, а нават сам князь Ігар і г.д. Даказваецца яго ўкраінскае, рускае, польскае, беларускае паходжанне. Пераважна лічыцца, што „Слова“ было напісана ў 1185-87 гадах, але ёсць падставы сцвярджаць, што яно паўстала паміж 1249-56 гадамі і ў іншым часе, а нават допускаецца здагадка, што гэта падробка-фальсіфікат з канца XVIII стагоддзя.

**Мікалай Гайдук**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## ЯК ВІЦЯ ЗВЯРОЎ ПАЛЮБІЎ

У прыгожай хаце каля лесу жыў хлопчык Віця.

Дзіўны гэта быў хлопчык. Вельмі не любіў звяроў. Кату ў хату ўвайсці не даваў. А калі той крадком увайшоў, каб нешта з'есці, дык Віця біў яго і выкідваў на двор.

— Унучак, — папракаў яго дзядуля. — Што ты робіш?

Угаворвалі яго і мама, і тата, і старэйшая сястра, але Віця нікога не слухаў.

Што рабілася на падворку, калі Віця выходзіў з хаты! Не было дзе падзецца ні курам, ні гусям, не гаворачы ўжо аб сабачцы, які быў увязаны каля будкі. Як возьме Віця палку, здзекваецца над усімі, б'е беднага Шарыка, аж той не ведае, куды схавацца.

— Віця, Віця, — уздыхае дзядуля. — Як ты далей жыць думаеш? Табе ж за год у школу ісці! Настаўніца спытае, які ў цябе найлепшы звер? А чым ты пахвалішся?

— Я скажу, што звяроў не люблю, — заявіў хлопчык дзеду.

Дзядуля пакруціў толькі галавою.

Прыйшла зіма. Уся зямля пакрылася белым пухам. Нідзе ні травінкі. Мароз памаляваў вокны ў розныя ўзоры. То лісточак нейкі, то кветачка.

— Ой, як мароз прыгожа малюе, — цешыцца Віця. — Я ахвотна яго ў хату пусціў бы, а ён маляваў бы мне, што я папрашу.

— Дурань ты, дурань, — смяецца сястра Надзя, — ён цябе замарозіў бы.

— Ціха ты, разумніца! Я ведаю, што кажу! — пачаў крычаць Віця. — Мастака такога на двары трымаюць, а ката ў хату пускаюць!

— Чаго ты крычыш? — спытала мама. — Надзя старэйшая за цябе, у школу ходзіць і больш ведае...

— Ведае, ведае... — перадразнівае хлапец маму.

— Ах ты гіцаль! Маці перакрыўляць?! — грозна крыкнуў бацька. — Ану ў кут! На калені! І стой, пакуль розуму не набярэшся!

Віця апусціў галаву, стаў дакладна так, як загадаў тата, — Толькі не мог зразумець, за што яго пакрыўдзілі? Слёзы пацяклі па шчаках і плечы пачалі ўздрыгваць.

— Папрасі прабачэння ў мамы і абяцай, што не будзеш звяроў крыўдзіць, — сказаў тата.

— Не, не папрашу, — праз слёзы адказаў малы.

— Калі не, дык стой далей! — злосна сказаў тата.

— Во які ганарысты! Ад зямлі не адрос, — сумна гаворыць дзядуля, — што з яго далей будзе? А ўсё гэта распуста. Калісьці мае дзеці і палавіны таго не мелі, што сёння. Помню...

— Добра, ужо добра, — перапыніў дзядулю бацька. — Калісьці былі зусім іншыя часы, а цяпер усё па-новаму.

Тым часам Віця заснуў. І яму прысніўся страшны сон. Быццам ён, зненавідзеўшы ўсё ў хаце і на падворку, вырашыў пайсці з дому. Цёпла апрануўся, узяў торбачку з ядою і пайшоў у лес.

Чым далей ішоў, тым больш лес выдаваўся гусцейшы. Але ён не звяртаў на гэта ўвагі, ішоў і ішоў. Нарэшце змарыўся, прысеў на белы ад снегу пянёк. Пасядзеў некалькі хвілін, апусціўшы галаву, а потым пачаў разглядацца. Раптам убачыў, што проста да яго ідзе воўк. Ад страху хлопчык толькі рот адчыніў і не мог паварушыць ні рукою, ні нагою. Воўк падышоў да хлапчука і спыніўся. Гледзячы ў вочы, ён спытаў чалавечым голасам:

— Ты чаго да мяне прыйшоў?

— Я... я... я... — пачаў мармытаць Віця, — проста так...

— Як гэта так? — грозна завыў воўк. — Проста так у лес не ходзяць! Але гэта добра, не трэба мне далёка ежы шукаць! Яна сама прыйшла да мяне. Ха-ха-ха! Я ў лесе кароль і раблю, што хачу!

— Лес жа для ўсіх! — адважыўся сказаць малы.

— О, не! Я тут кароль, каго хачу таго з'ем! Ням-ням, якое смачнае салодкае маладое мяса! — Воўк паказаў вялікія зубы, вострыя, як піла, і пачаў паволна набліжацца да Віці.

— Не, не! — закрычаў бедны хлопчык і закрыў твар рукамі.

Раптам Віця пачуў брэх сабакі.

— Гаў, гаў, гаў! — злосна брахаў сабака і ўсё хутчэй набліжаўся да месца, дзе сядзеў Віця.

— А гэта што такое?! — абурыўся воўк і павярнуўся ў той бок, адкуль бег сабака.

Віця адкрыў твар і ўбачыў Шарыка, які кінуўся на ваўка. Воўк, агрызаючыся, падаўся ў лес.

Шарык падбег да Віці і лізнуў яго ў твар.

— Шарык, мой добры Шарык, ты мяне ўратаваў ад смерці! — плачучы, радасна гаварыў Віця.

Шарык толькі лізаў і лізаў яго твар.

— Вось паглядзі, мама, — кліча сястра Надзя. — Заснуў, а не пакарыўся, а цяпер яшчэ смяецца праз сон.

— Трэба разбудзіць яго, — гледзячы на сына, гаворыць мама і асцярожна бярэ Віцю за руку.

Віця хутка ўстае і гледзячы то на маму, то на Надзю, пытае:

(Працяг на стар. 10)



Найлепшыя спартсменкі шко лы ў Белавежы Дар'я Ігнатовіч, Малгося Мілько і Ася Наторын. Фота Я. Чэрнякевіч.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

М. Мрэўшвілі

### СЛОН

Ходзіць дом ці слон —
Дзіўлюся:
Да чаго ж вялізны слон!
Ды яго я не баюся, —
Ціхі ён.

Толькі нос вунь,
Толькі нос —
Да зямлі ажно адрос!
Што з такім даўгім рабіць?
Не баіцца наступіць?

Мама кажа:
— Гэта хобат.
З ім слану няма турбот...
Бачу: яблыкі падносіць,
Слон зірнуў —
І ўвішна досыць
Яблык — хоп —
І тут жа ў рот!

Хобатам,
Нібы рукою,
Ён па яблыках правёў, —
Цэлы мех з'еў на сняданак,
З'еў за раз,
Нібы іх змёў!

Зразумеў я ўжо, здаецца,
Мне, сябры, не навіна:
Як,
Чаму,
Адкуль бярэцца
Сіла гэткая ў слана!

**Пераклаў з грузінскай мовы Мікола Чарняўскі**

Алег Буцень

### КАБ МАРОЗ НЕ КУСАЎСЯ

Даўно ўжо ў двары прадшколля не было так хораша, як сёння: за ноч выпала шмат снегу. Пушыстым дыванам ён ляжаў на зямлі, на будынках, на дахах. Нават на дрэвах. І хапіла толькі пацягнуць або няхочучы зачапіць за галінку, як з дрэва звальвалася цэлая лавіна снежных камякоў і з галавы да ног абсыпала неразважлівага свавольніка.

Шумна было на двары. Дзеці каталіся на санках, на лыжах. А каля невялікай горкі цэлая чарга выстраілася: кожнаму хацелася як найхутчэй з'ехаць з горкі.

Толькі адзін Цімошка як выйшаў з будынку, так і застаўся стаяць ля парога. Ён быў новы, яшчэ не паспеў пазнаёміцца з дзецьмі. Стаіць, настрошыўся, — холадна! Мароз пашчыпвае і за нос, і за шчокі. Нават у рукавіцы залазіць.

— Чаму ты не гуляеш з дзецьмі? — спытала ў яго выхавацелька.

— Холадна, мароз кусаецца, — адказаў Цімошка.

— А хочаш, я цябе навучу, каб мароз не кусаўся? — кажа выхавацелька.

— А як? — недаверліва спытаў Цімошка.

(Працяг на стар. 10)

# ЗЯРНЯТКІ

ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА
Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук

### ЗОСЬКА І АНТОСІК

Вышывае шоўкам Зоська
Брацiку свайму Антоську
На сарочцы каласкі
А між імі — васількі.

Каласкі жаўцеюць, спеюць,
Васількі ўсё больш сінеюць.
Як жывыя, каласкі,
І смяюцца васількі.

Хвалі ходзяць, як на ніве,
І блакіт плыве над імі.
Пад блакітам — каласкі
А між імі — васількі.

І праменьчык зіхатлівы,
Як струменьчык мігатлівы,
Поіць сонцам каласкі,
І смяюцца васількі.

І Антоську ў той сарочцы
Не пазнаюць, пэўна, хлопцы:
На сарочцы — каласкі
І між імі — васількі.

**Янка Пушча**

*1. Як ты апякуешся і дапамагаеш сваёй радні?*

*2. Раскажы пра сваіх двaюрадных або траюрадных сёстрах або братах.*

*3. Прачытайце ліст трэцякласнікаў Дабравольскай школы ў рэдакцыю „Нівы“.*

### ДАРАГАЯ „НІВА“!

Мы, вучні трэцяга класа Дабравольскай школы, — твае верныя чытачы. У нашым класе ўсе выпісваюць „Ніву“ і ўважліва чытаюць у ёй нашую старонку — „Зорку“. Нядаўна мы прачыталі пра тое, чым займаюцца нашыя сябры з Залескай школы. Віншуем іх з перамогай у школьным конкурсе дэкламацыі беларускіх вершаў і шчыра зайздросцім ім цікавай працы пры пасадцы школьнага саду. На жаль, у нашай школе беларускія вершы найлепш дэкламавалі пяцікласнікі, а наш школьны сад ужо вялікі. Затое наш клас стаў пераможцам на ўсю школу ў збіранні падпісчыкаў „Нівы“. Найбольш іх сабрала Ніна Васілюк. Яна заахвоціла да падпіскі аж дзевяць чалавек. Сваіх бацькоў, вядома, таксама.

Тыдзень таму ў нас быў бацькоўскі дзень. Да яго мы доўга і старанна рыхтаваліся. Спачатку ў наш клас прыйшлі мамы і таты. Наша выхавацелька расказвала ім пра паводзіны і навуку кожнага з нас. Лішне не нагакала на нас і не скардзілася. Мы тады ў суседнім класе рыхтавалі пачастунак і мастацкую частку. Потым запрасілі туды выхавацельку і бацькоў на ўрачыстасць. У нас была багатая праграма. Мы па-беларуску і па-польску дэкламавалі вершы, спявалі песні. Нават паставілі дзве п'есы: польскую „Сыны“ і беларускую „Пасля ўрокаў“.

Усім вельмі падабаліся нашыя выступленні і надта ж смакаваў чай з пячэннем. Усё гэта мы падрыхтавалі самі.

З прывітаннем
трэці клас Дабравольскай школы
Дабраволя, 23 студзеня.

*1. Складзіце разам пісьмо ў „Ніву“ пра свой клас і свае справы.*

*2. Складзіце слоўнічак на тэму „Сродкі зносін“. Словы запісвайце ў алфавітным парадку. Папярэдне дадайце ад сябе дзве-тры словы.*

Ліст, размова, тэлебачанне, радыётэлефон, газета, часопіс, аб'ява, пасылка, пошта, тэлеграф, паведамленне, сігнал.

*3. Складзіце сказы са словамі: часопіс, паштоўка, тэлеграма, пісьмо.*

(Працяг са стар. 9)

### ЯК ВІЦЯ ЗВЯРОЎ ПАЛЮБІЎ

— А дзе наш Шарык?

— А дзе ж яму быць — на падворку! — гаворыць дзед.

— А наш кот?

— Вунь на ляжанцы спіць, — паказвае рукой Надзя.

Віця бярэ маму за руку і просіць прабачэння. У адказ маці гладзіць сына па галаве. Бацька, моцна здзіўлены паводзінамі сына, стаіць ля парога. Заўважыўшы яго, Віця ўсміхаецца:

— Тата, мо заўтра мы з табою пойдзем у лес і Шарыка возьмем?

— Шарыка? — недаверліва пытае бацька.

— Ага. Шарыка. Няхай пабегае па лесе, — радасна гаворыць хлопчык.

— Проста ісці ў лес зімою не трэба. Мы зробім кармушку, і накладзем сена і павязём у лес. Як паставім на паляне, дык зайцы і козы есці будуць, — тлумачыць дзедка ўнуку.

— Добра, няхай і так будзе, але Шарыка з сабою абавязкова возьмем, — упіраецца на сваім малы.

— Возьмем, возьмем, — запэўнівае тата.

З таго часу Віця не дакучае кату, а Шарык стаў яго найлепшым сябрам.

**І. Лукша**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 163901, Архангельская обл., г. Новодвинск, ул. Пролетарская, д. 47, кв. 39. Петровой Светлане. 7 клас.

* * *

СССР, 187500, Ленинградская обл., г. Тихвин, 4-ый микрорайон, д. 21, кв. 12. Дубовик Нине. 15 год.

* * *

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, ул. Щербакова 8/10. Устименко Марии. Перапісвацца хоча ўвесь Марыйкін пяты клас.

* * *

СССР, 346554, г. Шахты, Ростовской обл., посёлок Таловый, ул. Мира, 37. Карташовой Наташе. 15 год.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

Настаўнік пытаецца ў першакласніка:

— Пеця, ты чаму ў школе не быў?

— Мой брат захварэў...

— Дык чаму ты дома застаўся?

— Бо я на яго лыжах катаўся...

* * *

На ўроку матэматыкі ў малодшым класе.

Настаўнік:

— Міша, калі ў твайго брата ёсць пяць яблыкаў, а ты возьмеш у яго чатыры, які будзе вынік?

Міша:

— Мой брат мяне паб'е!

* * *

Жэнік са старэйшай сястрой стаяць каля барометра.

— Калі стрэлка нахіляецца ўправа, — гаворыць сястра, — будзе пагода, калі ўлева — будзе дождж або снег...

— А калі стрэлка барометра ківаецца, — з разуменнем дадае Жэнік, — значыць, пагода не ведае, што рабіць.

* * *

Маленькі Віця прапануе маме:

— Давай закрычым „З новым годам!“ калі на гадзінніку будзе яшчэ палавіна 12-ай.

— Навошта? — дзівіцца мама.

— Няхай суседзі думаюць, што да нас першых прыйшоў Новы год!

* * *

Дашкольніца Марылька хоча праверыць свайго брата, як той навучыўся лічыць.

— Колькі будзе, калі да чатырох дадаць два? — пытаецца яна.

— Шэсць! — адказвае брат.

— А не! Шэсць будзе, калі тры дадаць да трох...

* * *

— Васілёк, чаму ў цябе рукі брудныя?

— Я імі твар мыў!

(Працяг са стар. 9)

## КАБ МАРОЗ НЕ КУСАЎСЯ

— А вось паслухай. Калі ты стаіш на адным месцы, Дзед-Мароз падкрадзецца і шчыпне цябе то за нос, то за шчаку. А ты спрабуй уцячы ад яго. Ён старэнькі, ён не дагоніць цябе. Бяры санкі — і бяжы на горку катацца. Дзед-Мароз будзе ганяцца за табою, а злавіць не зловіць.

Задумаўся Цімка.

— А вунь таго хлопчыка, што на лыжах, ён таксама не можа злавіць?

— Вядома, не можа, — кажа выхавацелька. — А мы давай спытаем у яго. Коля! — паклікала яна да сябе лыжніка. — Табе холадна?

— Не! — весела адказаў Коля.

Тады Цімошка ўзяў санкі і паімчаў на горку. З'ехаў з горкі раз, другі, а потым яшчэ шматшмат разоў. і яму нават горача зрабілася. Убачыў, што выхавацелька ўсё яшчэ стаіць, топчацца на месцы, падбег да яе і кажа:

— А я ўжо ўцёк ад Дзеда-Мароза. І вы ўцякайце!

## Вучнёўская творчасць

ВЕРШЫ ВУЧНЯЎ 5 КЛАСА ШКОЛЫ № 2 У ГАЙНАЎЦЫ

### ЗІМА

*У лесе снег.*
*Па ім мядзведзь бег.*
*У нару спаць лёг,*
*Бо за лета наеўся*
*І занямог.*
*Вавёрка*
*Арэхі сабрала.*
*А цяпер час*
*Палажыцца*
*І аб зіме забыцца*

**Марэк Мацюка**

### ЗІМА

*Зіма надыходзіць*
*З марозам і снегам.*
*Мы вяселімся і цешымся*
*Падарункамі навагоднімі.*
*Бо вядома,*
*Зіма надышла*
*І радасць прыйшла.*

**Эля Антонюк**

### НОВЫ ГОД

*Новы год настаў,*
*Белы снег упаў.*
*Заяц па снегу бяжыць.*
*І лапкі ў ёлкі дрыжаць.*

*А ёлка каляровая, бліскучая!*
*А пад ёлкай*
*Дзед Мароз*
*Шмат падарункаў прынёс.*

**Аня Казімірук**

### ЗІМА

*Грозная зіма,*
*Моцная зіма,*
*Кружыць каля нас*
*Доўгі час.*
*Яна пакрыла белым пухам*
*Палі, лясы і хаты.*
*Так разгулялася яна*
*І забылася,*
*Што прыдзе вясна!*

**Марэк Астапчук**

### НАША НАСТАЎНІЦА

*Наша настаўніца*
*Як другая мама,*
*Вучыць, выхоўвае*
*Вечарам і рана,*
*Часам дае нам буру,*
*Часам сароміць і ганіць,*
*А мы любім яе і цёпла*
*Успамінаем.*

*Яна нас навучыла*
*Пісаць першыя літары.*
*Яна кніжку адчыніла,*
*Аб краіне, аб роднай*
*сталіцы,*
*І аб дабрыні,*
*Якая жыве ў табе.*

**Еля Сапяжынская**

## АДГАДАНКА




**Пачынаючы з літары „Л“ у вялікай акружнасці і прапускаючы аднолькавую колькасць літар, прачытайце па руху гадзіннікавай стрэлкі словы Максіма Горкага. У другой акружнасці пачынайце ад літары „К“**



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

